# Наша Свабода

№82 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

12 СНЕЖНЯ 2000 года АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





# Правы і жыццё

Наталля РАДЗІНА

**10 снежня з нагоды 52-ой гадавіны абвяшчэння Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека ў 15 гарадах Беларусі прайшлі санкцыянаваныя і несанкцыянаваныя мітынгі прадстаўнікоў праваабарончых арганізацыяў дзеля прыцягнення ўвагі грамадскасці да знікнення на Беларусі людзей.**

У гэты дзень дзяржава шчыра выказала свае адносіны да захавання правоў грамадзянаў — беларускае тэлебачанне абразліва паказала кадры з чалавекам, які дэманстратыўна рве Дэкларацыю і кідае яе ў сметніцу. Таму не дзіва, што святкаванне гадавіны абвяшчэння Дэкларацыі не абышлося без традыцыйных затрыманняў.

У Гродне на 10 снежня праваабаронцамі было заяўлена чатыры пікеты, але мясцовыя ўлады адзін з пікетаў забаранілі, а другі беспадстаўна перанеслі з цэнтральнай плошчы горада ў "спальны" раён. Як паслухмяныя грамадзяне гарадзенцы правялі 10 снежня тры дазволеныя пікеты. 9 снежня яны паспрабавалі абараніць свае правы, гарантаваныя Канстытуцыяй, і правялі несанкцыяваны пікет. Праз паўгадзіны пікет быў спынены супрацоўнікамі міліцыі, якія з васьмі пікетуючых праваабаронцаў затрымалі чатырох.

У Віцебску падчас несанкцыяванага пікета былі затрыманыя 4 чалавекі. Праваабаронцаў затрымлівалі людзі ў цывільным, зацягвалі іх у машыны і адвозілі ў РУУС Чыгуначнага раёна Віцебска. На іх былі складзеныя пратаколы за ўдзел у несанкцыяваным пікеце.

У Брэсце падчас несанкцыяванага пікета былі затрыманыя 5 чалавек, на якіх у РУУС Ленінскага раёна Брэста былі складзеныя пратаколы. Пасля гэтага начальнік РУУС сп. Касцючык загадаў пакінуць усіх затрыманых да суда ў аддзяленні.

У Барысаве пікетоўшчыкаў увогуле затрымлівалі супрацоўнікі міліцыі з аўтаматамі. Былі затрыманыя Зміцер Бародка (старшыня Барысаўскай філіі «Вясны») і Анатоль Аскерка. Пратаколы затрымання на праваабаронцаў не былі складзеныя, з імі «правялі размову» і адпусцілі.

Пасля Мінска, дзе ў святкаванні гадавіны праваабарончага руху прымала ўдзел каля 350 праваабаронцаў, найбольш буйны мітынг прайшоў у Маладзечне. У санкцыянаваным мітынгу прынялі ўдзел 200 чалавек. ■

Працяг тэмы на стар. 2




Фота Ул.ШЛАПАКА

● Мінск. 10 снежня. Праваабаронцы на праспекце ў камізэльках з партрэтамі людзей, якія бясследна зніклі

## НАВІНЫ

■ **Цягам гэтага года ў Беларусі адбылося больш за 2.200 выпадкаў збыту падробленых грошай, з іх 900 у сталіцы.** Летась было ў 2 разы меней. Фальшывых беларускіх рублёў спрабавалі збыць на суму 6 мільёнаў, а долараў – на 193 тысячы.

■ **З 15 снежня кошт уязной візы ў Чэхію беларусам стане абыходзіцца значна танней. Ён паменшае ў 6 разоў і будзе раўняцца 10 долорам.** Гэта тлумачыцца перш за ўсё тым, што апошнім часам турыстычны паток у гэтую краіну знізіўся амаль у 3 разы. Тая ж сітуацыя з транзітнымі вандроўкамі.

■ **У снежні ў Мінску адкрыецца першы ў краіне начлежны дом.** Размесціцца ён па вуліцы Ваўпшасава. Мяркуецца, што тут будзе болей паўсотні спальных ложкаў. Але тое замала, бо, напрыклад, у сталічным Цэнтры дапамогі бяздомным налічваецца 248 бамжоў.

■ **Досыць удала выступіў на этапе Кубка свету ў Італіі наш лыжнік Сяргей Далідовіч.** У гонцы на 15 км свабодным стылем ён заняў 10-е месца, апярэдзіўшы пры гэтым такіх майстроў, як нарвежац Томас Альсгаард і фін Міка Мюллюля.

■ **У першы дзень фіналу Кубка свету па гімнастыцы ў Глазга Іван Іванкоў стаў другім на кані і трэцім на кольцах.** У мастацкай гімнастыцы Юлія Раскіна зняла трэцяе месца, выступаючы з абручом.

# Батька на шее

Реалии белорусской экономики в оценке экс-председателя Нацбанка РБ Тамары ВИННИКОВОЙ



## Подарки народу

В июле 94-го усталая страна застыла в ожидании, тревоге и волнении — что сделает тот, кому доверили судьбу страны, будущее нации, будущее своих детей? Через три месяца, аккурат к Рождеству, жители страны получили от Батьки первые подарки. Перед шикарными витринами стояли намного дольше, чем перед урнами, когда голосовали за любимца, волнуясь, снимали очки, потом водружали их обратно, протирали мозолистыми, загрубевшими от тяжкой работы руками стекла, оглядывались беспомощно по сторонам, может со зрением что или вообще со здоровьем. Что за гоголевская чертовщина перед Рождеством? Молоко, любимая пища пенсионеров и детей, вздорожало относительно прошлогоднего декабря в 68 раз. Сыр для бутербродов от новой власти возжелали? Получите, но стоит это в 26,4 раза дороже, чем было у В.Кебича. Хлебом едины решили питаться? В 46,5 раза дороже обычного. Рыбки, говядинки, свининки к праздничку — нет проблем, всего в 20 раз дороже, чем было у сброшенной, ненавистной власти.

Нет денег на такую жизнь? Так можно поехать к маме в деревню, сало-то на рынок приказано обеспечить, правда, вот цену просят на 1658% больше, а на яйца – и вовсе 1958%, нежели на прошлое Рождество.

Куда деваться, без деревни не выжить, но это и новой власти ясно, на то и рассчитано. Она уже заботливо приготовила билетики в пригородном поезде в 53 раза дороже, а в междугороднем — аж в 139 раз все подорожало. Но в пот бросило от неожиданности? Легкий пар новым режимом приготовлен, новогодняя традиция не нарушена, да и цены, откровенно говоря, божеские на фоне остальных, лишь в 30 раз стало дороже в баньке побывать! Тех, у кого сердце не выдержало подобной новогодней щедрости, тоже ждал сюрприз: при Кебиче стоило бы в 16 раз дешевле – ровно настолько выросла стоимость гробов и прочих нужных для последнего пути услуг. Но разве мог это сделать всенародный избранник? Конечно нет, он точно не мог, конфузия вышла, с кем не бывает. Народ конфузию проглотил молча.

Но дальше сюрпризы на голову простого люда посыпались один за другим, как из рога изобилия. Тогдашний Генпрокурор В.Шолодонов прослышал, например, что глава государства ищет вклады ограбленного народа. Обрадовался и присоединился к поискам, написал письмо, указав точный адрес, чтобы сами добровольно вернули те, кто взял. Для устрашения указал расхитителям на их неслыханную наглость: преступными сапогами растоптали вместе с вкладами аж две статьи закона, их защищающие. Генпрокурору было отчего волноваться, очевидно ему на миг показалось, что по неопытности власть не там ищет. Начали искать с гвоздей на даче у С.Шушкевича, а тут огромные национальные достояния утекают в неизвестном направлении. Ведь только прирост вкладов к моменту распада Союза составил в республике 7,0 млрд.рублей, а денежные доходы населения превышали расходы на покупку товаров на 16,3 млрд.рублей. А еще соседи сопредельных государств приезжали за покупками — 1,6 млрд. рублей чистыми оставили. И все накопления в российских, конвертируемых рублях. За один рублик можно было купить 0,6 доллара, на черном рынке чуть подороже, но меняй сколько хочешь.

Генпрокурор по-джентльменски требовал от новых владельцев народного капитала, в виде миллиардов долларов, вернуть его народу. На самом верху как узнали, о каких суммах речь идет, немедленно отреагировали. Генпрокурора с должности убрали, обвинив его самого в таких грехах, что и воспроизвести страшно, вдруг кто статью, на ночь глядя, почитает. С тех пор про народные вклады, несметные богатства страны, а также о том, кто стал их владельцем, и где они вообще, никто и не вспоминает. ▶

Окончание на стр.4

**Шаноўныя чытачы!**
Запрашаем вас прыняць удзел у ГАРАЧАЙ ЛІНІІ з галоўным рэдактарам НАШАЙ СВАБОДЫ **Паўлам ЖУКОМ.**

ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ (017) 228-69-18

Вы зможаце задаць любыя пытанні **СЁННЯ, 12 снежня з 12.00 да 14.00** па тэлефоне **228-69-18. Тэлефануйце!**

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1205**



## Голыя «сокалы»

**Аляксандр ДУБРАВІН**

Некалі ў Беларусі энкавэдзісты ды гэпэушнікі пры дапамозе суддзяў ды пракурораў сотнямі тысяч вынішчалі бязвінных людзей. За гэта мелі пасады, грошы, павагу, ордэны, пайкі і кватэры. Вывозілі свае ахвяры ў лес, стралялі ім у каркі з рэвальвераў. А потым, стомленыя, але задаволеныя і п'яныя, ехалі дадому да сваіх дзетак і жонак. І, мусіць, тады не дужа саромеліся ім расказваць пра сваю «работу»: знаходзілі ж уласна для сябе нейкія апраўданні. Бо як можна жыць чалавеку з такім цяжарам на душы? Як можна радавацца, што забіў нявіннага чалавека? Трэба прыдумаць яму віну. А нашто ён нешта сказаў, напісаў альбо падумаў? Чаму ён гаворыць на сваёй мове? Чаму заступаецца за іншых людзей? Чаму адстойвае праўду і справядлівасць?

Сёння ўсе ведаюць пра гэта. Але ці ведаюць людзі імёны гэтых забойцаў? Менавіта тых, хто пачкамі клаў людзей у Курапатах? Хто выціраў з ботаў акрываўленую гліну аб прыдарожную траву? Не, не ведаюць. Іх схавалі ад народнага гневу, засланілі дзяржаўнай сакрэтнасцю, хітра перавялі ўвагу людзей на іншыя праблемы. Забойцы камфортна дажылі свой век у кватэрах, адабраных у дзяцей забітых імі людзей, напладзілі сваё пацуковае, цынічнае, ненажэрнае, крыклівае, нахабнае патомства.

Таму, калі вы бачыце сёння на вуліцы альбо на тэлеэкране людзей з белымі ад нянавісці вачыма, якія пырскаюць слінай, бэсцяць дэмакратыю, свабоду, незалежнасць, якія нахабна хлусяць, пагражаюць, абражаюць выдатных сыноў і дачок нашай Бацькаўшчыны, якія зноў перапісваюць гісторыю краіны, хваляць Сталіна, топчуць беларускую мову і культуру, прыдумляюць нейкія свае здрадніцкія арганізацыі кшталту пятай калоны, якія рыхтуюць Беларусь да здачы незалежнасці і ствараюць прастор для дзейнасці расейскіх фашыстаў, — ведайце, — магчыма, гэта сынкі і ўнукі тых, хто страляў людзям у каркі па начах. Тых сталінскіх «сокалаў». Яны баяцца, што свабода ўрэшце пераможа, архівы ўсё ж-такі адкрыюць, зробяць публічны суд над забойцамі і пра іхніх бацькоў і дзядуль усе даведаюцца. Даведаюцца, з якога гадзючага кораня яны пайшлі. І што ты потым каму давядзеш, калі твой дзед або бацька ў людской крыві з ног да галавы? Хто будзе слухаць твае плявузганні?

Мы жывем на акрываўленай зямлі, якая стогне ад сораму і агіды. Забойцы не асуджаныя, праўда не перамагла, пакаянне не адбылося. Архівы беларускіх курапатаў надзейна схаваныя альбо знішчаныя. Праўда — самая страшная пагроза для нелюдзяў — пад каменем. Таму гісторыя пачынае паўтарацца. Зноў пагрозы, запалохванні, паліцэйшчына, знікненні людзей...

Ды ўжо новым разам, калі пройдуць цёмныя часіны, калі высмагнуць і гэтыя гіцлі, людзі пра ўсё даведаюцца, усё паставяць з галавы на ногі, бо праўда – яна за намі.

## Чэхі вымагаюць свабодаў для беларусаў

10 снежня ў цэнтры Прагі на Вацлаўскай плошчы адбыўся пікет, арганізаваны Беларускім форумам у Празе «Адраджэньне», з нагоды Дня абароны правоў чалавека. Месца правядзення мерапрыемства было абранае невыпадкова: менавіта тут у 1968 годзе савецкія танкі разагналі чэшскіх дэманстрантаў, якія выступалі супраць камуністычнага рэжыму. Зараз на Вацлаўскай плошчы стаіць помнік ахвярам таталітарызму і заўсёды ляжаць жывыя кветкі ў памяць тых, хто загінуў пры змаганні за свае правы.

У гэтым годзе на Вацлаўскай плошчы сабраліся беларускія студэнты, якія навучаюцца ў Чэхіі, палітычныя ўцекачы, супрацоўнікі Радыё «Свабода», прадстаўнікі фундацыі «Чалавек у нядолі», сябры суполкі «Скарына» і чэшскія журналісты. З плакатамі і бел-чырвона-белымі сцягамі беларусы разам з чэхамі пратэставалі супраць парушэння правоў і свабодаў чалавека на Беларусі. Так, чэшская беларусаведка Сокалава сказала, што для яе «ёсць гонарам падтрымаць імкненне беларускага народа пазбаўлення дыктатуры і жыць у свабодным грамадстве».

Журналіст Любамір Гомбаш прыйшоў на пікет, бо ён «дзесяткі разоў быў на беларускіх дэманстрацыях і бачыў, як міліцыя і спецназаўцы збівалі дубінкамі жанчын і дзяцей; прысутнічаў на судах над студэнтамі, палітыкамі і мастакамі. Беларускія суды не маюць нічога агульнага з правасуддзем. Я прыйшоў сёння на пікет, каб паказаць, што чэхі хвалююцца за лёсы ахвяраў лукашэнкаўскага рэжыму».

Прысутнічаў на пікеце і Станіслаў Шушкевіч. «Я ў Празе ўпершыню. Прыехаў з візітам якраз у Дзень абароны правоў чалавека, вырашыў пакласці кветкі ля помніка ахвярам камуністычнага рэжыму. І пабачыў бел-чырвона-белыя сцягі... Вельмі важна, што беларусы, якія жывуць у Чэхіі, не забываюцца на лёс Бацькаўшчыны. На Беларусі сітуацыя крытычная: набліжаюцца прэзідэнцкія выбары, і рэжым становіцца больш жорсткім. Маральная падтрымка Еўропы беларускім дэмакратам востра неабходная».

Каля месца правядзення пікета быў заўважаны аўтамабіль беларускай амбасады ў Чэхіі, але самі супрацоўнікі афіцыйнага прадстаўніцтва Беларусі ў акцыі не ўдзельнічалі, а толькі сталі побач і назіралі.

*Беларускі Форум, Прага*

## Экспарту перашкаджала Расія

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

Транспарціроўка воўны «мерынос» праз акіян з Аўстраліі абыходзіцца зараз для Пінскага ААТ «Палессе» менш затратна, чым з Расіі. Гэты эканамічны парадокс тлумачыцца неахайнымі адносінамі ўсходняга пастаўшчыка да якасці сыравіны для Беларусі. На месцы «замызганую» воўну даводзіцца перабіраць уручную і адмываць ад бруду. Шматгадовыя спробы пінскіх трыкатажнікаў адабраць хоць б нейкую долю з расійскага імпарту для перапрацоўкі ў гатовыя вырабы для экспарту на Захад практычна не мелі поспеху. Зусім іншы – мерынос. Ад продажу верхняга трыкатажу з яго ў Германію, Канаду, Польшчу і іншыя краіны атрымана больш як 9 мільёнаў долараў. І калі раней удалося купіць 167 тонаў аўстралійскай воўны, то зараз заказана яшчэ 250 тонаў. Шкада, што не больш, бо тады і беларусы маглі б апранаць прыгожыя рэчы з цёплага мерыносу.

## Сярод затрыманых—польскі студэнт

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

9 снежня гродзенскай міліцыяй былі затрыманы чацвёра маладзёнаў. На двух з іх – Святлану Нех і Дзяніса Міхальчыка складзены пратаколы аб нібыта правядзенні недазволенага пікета.

Сярод затрыманых былі таксама Алеся Сідлярэвіч з газеты «Пагоня» і польскі студэнт Пётр Цішэўскі. Усе рэчы паляка былі дбайна перагледжаныя. Міліцыянты засвяцілі ягоную фотастужку, а самога яго сфатаграфавалі ў анфас і профіль — з нумарам для свайго архіву. Польскі студэнт мае намер звярнуцца са скаргай у Генеральнае консульства Польшчы ў Гродне. Разам з моладдзю міліцыяй быў затрыманы таксама выпадковы прахожы, якога адразу выпусцілі.

10 снежня ў горадзе адбыліся тры пікеты з нагоды Дня Сусветнай дэкларацыі правоў чалавека. Гараджанам раздаваліся ўлёткі з вытрымкамі з Дэкларацыі і з інфармацыяй аб парушэннях правоў чалавека гродзенскай міліцыяй. Пікеты былі дазволеныя ўладамі. Два з іх правёў БНФ «Адраджэнне», адзін — Маладая Грамада.

## Паход па праспекце

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Масавымі гуляннямі па праспекце Ф.Скарыны ў Мінску адзначылі беларускія праваабаронцы дзесятае снежня – Дзень абароны правоў чалавека. Больш за стопяцьдзесят чалавек, апранутых у камізэлькі з надпісам «10 СНЕЖНЯ – ДЗЕНЬ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА» на спіне і партрэтамі Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага і Дзмітрыя Завадскага на грудзях, дзве гадзіны прахаджваліся па цэнтральным праспекце горада ад Кастрычніцкай плошчы да перакрыжавання з вуліцай Валадарскага. Пры гэтым мінакам было раздадзена больш за пяць тысяч экземпляраў Усеагульнай дэкларацыі аб правах чалавека. Міліцыянты спачатку рэагавалі даволі нервова, але пасля, відаць, калі ім паступіла каманда нікога не чапаць, супакоіліся і мірна назіралі за гуляннем. Тым больш, што юрыдычна прыдрацца было абсалютна немагчыма.

Праўда, затрыманні ўсё ж адбыліся. Спачатку пры выхадзе са станцыі метро «Плошча Незалежнасці» міліцыянты павязалі трох маладых людзей, якія ішлі з неразгорнутымі, праўда, плакатамі і накіроўваліся да помніка Леніну з мэтай правесці несанкцыяваны пікет. У гэтым ва ўсякім разе іх абвінавацілі міліцыянты.

Яшчэ дзве жанчыны, сябры Аб'яднанай грамадзянскай партыі, у камізэльках былі затрыманыя на падыходах да рэзідэнцыі А.Лукашэнкі «для праверкі дакументаў».

У цэлым жа акцыя прайшла годна і даволі маляўніча. І добра, што ў гэты раз з малой колькасцю затрыманых. Зрэшты, якая б колькасць затрыманых ні была, адзін ці сто, гэта не істотна, галоўнае, нашыя з вамі правы па-ранейшаму парушаюцца ў гэтай краіне.

## Ён – абяцае, а царква – выручае

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

Яшчэ да эпідэміі грыпу і траўматызму на зімовай слізоце Беларусь захлынула наменклатурная хвароба папулізму накшталт таго, каб знайсці вінаватых фармацэўтаў у дарагоўлі на лекі, а таксама ўрачоў, якія прымушаюць людзей ісці ў клініку са сваімі аптэчкамі. Уздым гаманы пасля прамых папрокаў насельніцтва А.Лукашэнкі падчас яго паездкі ў Бабруйск не сцішыўся да сённяшняга дня, хоць на справы да лепшага гэта ніяк не ўплывае.

У адчаі нявырашаных праблемаў медычны персанал Івацэвіцкай райбальніцы звярнуўся за дапамогай да прасвітара царквы «Благодать» Вячаслава Мазалеўскага і не марна. Траўматалагічнае аддзяленне атрымала 3 функцыянальныя ложкі, 2 сталы для перавязак, тумбачкі для лекаў. У інфекцыйнае і радзільнае аддзяленні перададзеныя дзіцячыя вагі, а ў прыёмны пакой – крэсла-каталка і стол для перавязак.

**ФОТАФАКТ**



Фота IREX/ProMedia

У беларускім войску адбываецца плановая праверка. Правяраюцца транспартныя сродкі

## Чарвякі з ... крана

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

Тонкія і цёмныя, як нітка, а вяртлявыя, нібыта ўджалены нерв, вадзяныя шчацінкавыя чарвякі агідна палохаюць зараз берасцейцаў у старых кватэрах цэнтральных вуліцаў – імя Пушкіна, імя Будзённага, імя Карбышава і іншых. Пачвары вывальваюцца на белы фаянс рукамыйнікаў разам са струменем пітной вады...

У гарсанэпідэмстанцыі, куды звярнуліся найбольш узбуджаныя 15 берасцейцаў, спакойна патлумачылі, што брыдкія істоты – абсалютна бясшкодныя для якасці вады, бо любяць менавіта самую чыстую і таму пасяляюцца на сценках сталёвых труб водазабеспячэння. Харчуюцца яны трохвалентным жалезам у піках дамавых сістэмаў.

Слабае супакаенне. Калі «чысцюлі-чарвякі» пачалі пакідаць свае звыклыя гнёзды, то яўна пацвярджаюцца скаргі, што вада ў Брэсце стала горшай. Уражвае таксама, што нашэсце шчацінкавых не стала сігналам для прамыўкі трубаў. Усё-такі вельмі сумніўна, каб ад чарвякоў з крана нельга было захварэць, і зусім верагодна, што можна страціць прытомнасць пры першым з імі знаёмстве.

## Бяспека ад інфармацыі

**Валерый БУДКЕВІЧ**

Пастаянная камісія Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы распрацавала праект Закона Рэспублікі Беларусь «Аб інфармацыйнай бяспецы». Прадстаўляючы яго, старшыня камісіі Мікалай Чаргінец зазначыў, што «сучасны ўзровень развіцця інфармацыйных тэхналогій, сродкаў масавай інфармацыі і камп'ютэрных сістэмаў ствараюць рэальныя магчымасці аказання накіраванага ўздзеяння на псіхіку, свядомасць, погляды і стасункі як асобных людзей, сацыяльных групаў, так і насельніцтва любой дзяржавы. Адзначаны нямала фактаў, якія б пацвярджалі выкарыстанне вядучымі заходнімі краінамі, перш за ўсё ЗША, распрацовак і прымянення тэхналогіяў, накіраваных на маніпуляванне свядомасцю і паводзінамі людзей у дзяржавах, што разглядаюцца імі ў якасці перашкодаў у дасягненні сваіх мэтаў». Да ліку такіх дзяржаваў, на думку Чаргінца, адносіцца і Рэспубліка Беларусь, «у дачыненні якой рэгулярна праводзіцца мэтанакіраваная дэзінфармацыя шляхам распаўсюджвання недакладнай, скажонай або проста лжывай інфармацыі».

З другога боку, па словах М.Чаргінца, «інтэнсіўны, але зусім не рэгуляваны і не кантраляваны працэс камп'ютэрызацыі і інфарматызацыі краіны, разам з атрыманнем карыснай і неабходнай для развіцця грамадства інфармацыі, вядзе да запаўнення інфармацыйнай прасторы матэрыяламі, якія адмоўна ўздзейнічаюць на сістэму абароны грамадства ад іх негатыўных наступстваў». Апрача таго, маецца праблема «абароны непасрэдна самой інфармацыі ад уздзеяння звонку, паколькі перадавыя тэхналогіі і распрацоўкі ў розных галінах эканомікі Беларусі ўяўляюць сабой вялікую цікавасць для шматлікіх дзяржаваў, а таксама буйных фірмаў і зацікаўленых асобаў».

*БелаПАН*

## Капітан ДАІ прайграў «Прэсболу»

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Перамогай спартыўнай газеты «Прэсбол. Такое спартыўнае жыццё» скончыліся 11 снежня слуханні ў судзе Цэнтральнага раёна сталіцы. Іск аб абароне гонару і годнасці і спагнанні кампенсацыі на суму 500 мінімальных заробкаў, які падаў два з паловай месяцы таму капітан Дзяржаўтаінспекцыі Віктар Войтаў, быў адхілены, а самога Войтава вымусяць заплаціць судовыя выдаткі.

Сутнасць справы, нагадаем, у наступным. У верасні ў дзень гульні на стадыёне «Дынама» нацыянальных зборных Беларусі і Уэльса інспектар ДАІ капітан Войтаў стварыў перашкоду пры ўездзе на стадыён аўтамабіля з інспектарам УЕФА, аргументуючы гэта тым, што ў яго ёсць загад ніякіх аўто на стадыён не прапускаць. У інспектара ж быў дакумент, які пацвярджаў, што ён мае права свабоднага ўезду на ўсе стадыёны свету. Але гэта не сталася для ДАІшніка аргументам, і гэткім жа чынам ён паспрабаваў паступіць з пажарнай машынай, якая мусіць прысутнічаць на кожнай гульні.

Што спрабаваў даказаць Войтаў, падаючы іск у суд – невядома, бо сведкі, якія прысутнічалі на месцы, слова ў слова паўталі падзеі ў інтэрпрэтацыі газетчыкаў. Большасць жа аргументаў міліцыянта – выклікалі смех у прысутных.

Суддзя Інга Лабыніч, якая, на жаль, абсалютна беспадстаўна не дазволіла знаходзіцца ў зале суда прэсе і сказала пры гэтым, што «мне проста не хочацца і ўсё», учора зачытала свой прысуд, які выклікаў вялікую крыўду ў ДАІшніка. Верагодна, ён будзе падаваць касацыйную скаргу, але наіўна было б спадзявацца, што гэта штонебудзь зменіць.

## Правы чалавека абмяжоўваюць уладу

**Алена ЛАБАНАВА**

З прыняццем у 1996 годзе паправак да Канстытуцыі Канстытуцыйны Суд пазбавіўся права па сваёй ініцыятыве разглядаць справы наконт адпаведнасці ёй ўсіх прававых актаў. Дагэтуль за 2,5 года існавання ён прызнаў неканстытуцыйнымі 17 указаў прэзідэнта, штогод атрымліваў каля тысячы скаргаў грамадзянаў аб парушэннях іх правоў.

Зараз звяртацца са скаргамі аб парушэнні правоў чалавека ў Канстытуцыйны Суд бессэнсоўна: выконваць належныя функцыі ён можа толькі па запытах прэзідэнта, парламента, урада альбо Вярхоўнага і Вышэйшага Гаспадарчага судоў.

Але, як заўважыў на прэсканферэнцыі да Дня правоў чалавека старшыня Канстытуцыйнага Суда Рыгор Васілевіч, гэтыя суб'екты не выяўляюць зацікаўленасці ў выкрыцці неканстытуцыйных нормаў і ў Суд не звяртаюцца.

Нават фармальна не мае такой функцыі і Генеральны пракурор, а Упаўнаважанага па правах чалавека ў нас увогуле дагэтуль няма. Канстытуцыю ж, якая ўсё гэта замацоўвае, Рыгор Васілевіч упарта называе «дэмакратычнай».

Прычыны парушэнняў правоў і свабодаў ён бачыць у «няўмелым выкарыстанні» нормаў права і ў недасканаласці прававых актаў, якія маюць шмат унутраных супярэчнасцяў і неўзаемаўзгодненых паміж сабою. Р.Васілевіч сказаў, што немалы цяжар віны кладзецца на лакальныя нарматыўныя акты мясцовых уладаў. Каб аблегчыць пакуты грамадзянаў, рыхтуецца праект закона, які замацаваў бы за імі права непасрэдна звяртацца ў Канстытуцыйны Суд са скаргамі наконт неканстытуцыйнасці актаў мясцовых органаў улады. Тут можна нагадаць вядомы выраз: каб зрабіць народ шчаслівым, трэба спачатку адабраць у яго ўсё, а потым пакрысе аддаваць.

На стадыі распрацоўкі знаходзіцца ўжо які год і дзяржаўная праграма дзеяннаў па забеспячэнні правоў і свабодаў грамадзянаў. Пакуль што ўся праца зводзілася да прызначэння і перапрызначэння складу працоўнай групы па распрацоўцы гэтай праграмы.

# Лукашенко появится на южном фронте

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

**Правящий режим в Беларуси называет свою внешнюю политику многовекторной. Хотя как-то Александр Лукашенко признал, что необходимо исправить «дикий крен» восточного вектора, сбалансировав его с западным. Точнее, с европейским. Однако с ним пока ничего существенного не получается.**



Прошедшие парламентские выборы в Беларуси европейские структуры так и не признали. Очевидно, что этим и вызвана развернутая белорусскими властями пропагандистская кампания против деятельности Консультативно-наблюдательной группы ОБСЕ в Беларуси и ее руководителя посла Ханса-Георга Вика. Так что так называемый западный вектор политики Минска вполне можно назвать фронтом. Впрочем, как и южный вектор.

Начавшийся с саммита стран СНГ в Минске декабрь обещает стать весьма насыщенным в плане внешнеполитической активности именно южного фронта политики Александра Лукашенко. На 15 декабря намечено официальное закрытие Чернобыльской АЭС. Как было объявлено, президент Украины Леонид Кучма пригласил А.Лукашенко на это мероприятие. В белорусских СМИ широко была представлена информация о том, что украинский глава государства официально обратился с просьбой к белорусскому коллеге об оказании посильной помощи в связи с постигшим Украину стихийным бедствием. Все это безусловно поспособствует возвращению А.Лукашенко на украинское политическое поле, с которого он фактически исчез после переизбрания Л.Кучмы. Как известно, А.Лукашенко открыто выражал свои симпатии другим кандидатам в президенты Украины.

Среди основных направлений деятельности внешнеполитического ведомства Беларуси, на третьем месте, после отношений с Россией и Евразийским экономическим сообществом (Россия, Казахстан, Киргизия, Таджикистан и сама Беларусь), находится СНГ. С некоторыми из его стран у Беларуси складываются своеобразные отношения. К примеру, с Грузией и Молдовой, где существуют сепаратистские абхазские и приднестровские анклавы. Их отношения с Тбилиси и Кишиневом характеризуются как тлеющие конфликты. А вот отношения Минска с сепаратистами, по словам А.Лукашенко, существуют исключительно на уровне субъектов хозяйствования.

Как известно, с 5 декабря Грузия стала первой страной СНГ, с которой Россия установила визовый режим. Признавая территориальную целостность грузинского государства, надо полагать, он распространяется и на абхазский участок российско-грузинской границы. Как отметил во время своей первой пресс-конференции новый глава МИД Беларуси Михаил Хвостов, введение этого визового режима никак не скажется на отношениях между белорусскими и абхазскими субъектами хозяйствования. Через границы каких государств эти сомнительные отношения будут поддерживаться, министр не уточнил. Кстати, некоторые стратеги режима А.Лукашенко склонны объяснять похолодание российско-грузинских отношений и таким, на их взгляд, негативным фактом. Послом США в Тбилиси работает Кеннет С.Яловиц, который до этого работал послом в Минске. Говорят, что у него с Э.Шеварднадзе сложились весьма теплые отношения. Не в пример, какие были с А.Лукашенко, обещавшего американского посла «задушить в объятиях». Оказалось, что «душатся» другие во внешнеполитической изоляции. Правда, на южном направлении, Беларусь ее почти не ощущает.

За последние 5 лет весьма интенсивный и разнообразный характер получили отношения Беларуси с так называемой Приднестровской Молдавской Республикой (ПМР). В сентябре на торжествах по случаю ее появления на свет присутствовал губернатор Брестской области Василий Долгалев. По циркулирующей в последнее время информации, наиболее эффективно деловые контакты с приднестровскими сепаратистами устанавливаются через московскую организацию «Единства». Ее возглавляет «официальный белорус» Франц Клинцевич, люди которого в Приднестровье стали играть ведущие роли в таможенном бизнесе. «Официальным белорусом» бизнесмена Ф.Клинцевича называют за то, что он является и активистом белорусской диаспоры в Москве, и лоббистом интересов режима А.Лукашенко в российской Госдуме, других структурах.

Известно, что сейчас Кишинев озабочен не только последствиями стихийного бедствия, ликвидировать которые ему помогает и Беларусь. Парламентская Республика Молдова испытывает трудности и с президентом, которого пока парламентарии не могут избрать. Это негативно сказывается на внутриполитической ситуации в стране. Но выборами озабочены и в Приднестровье, где в декабре хотят провести выборы в свой парламент. По некоторым данным, в качестве наблюдателей туда засобирались и палаточные законодатели из Беларуси. Интересно, что министр иностранных дел Беларуси Михаил Хвостов назвал их затею понаблюдать в ПМР личным правом белорусских депутатов. Насколько, к примеру, такие вояжи будут способствовать миротворчеству в Приднестровье Е.Примакова, сказать трудно. Впрочем, как миротворца, Е.Примакова многие воспринимают и в Беларуси.

Вот с кем пока не получается у А.Лукашенко устойчивого личного контакта, так это с президентом Туркмении. Планировавшийся в ноябре визит А.Лукашенко в Ашхабад перенесли на апрель следующего года. А на прошедший 1 декабря минский саммит СНГ Туркменбаши так и не приехал. Зато результативным обещает стать предстоящий в 20-х числах декабря вояж А.Лукашенко в такой район своего южного фронта, как Багдад. В Белграде ведь уже делать нечего. По некоторым данным, в Багдаде предполагаются подписания с Саддамом Хусейном весьма выгодных контрактов в энергетической и других сферах двусторонних отношений. Видимо, самыми яркими впечатлениями уходящего года были у А.Лукашенко встречи с Муамаром Каддафи и Саддамом Хусейном. Похоже, вспоминая об этом, и встретит правитель Беларуси Новый год. ■

## Обращение к правительству Беларуси

Мы, участники Международной Гостевой Программы, проводившейся в Соединенных Штатах с 16 ноября по 7 декабря 2000 г., хотим выразить озабоченность по поводу незаконного содержания под стражей политических узников, таинственного исчезновения граждан Республики Беларусь и других грубых нарушений прав человека.

Мы настоятельно рекомендуем правительству Беларуси принять следующие меры:

немедленно освободить из заключения всех политических узников, в особенности депутатов Верховного Совета 13-го созыва Владимира Кудинова и Андрея Климова;

немедленно начать расследование случаев исчезновения людей и опубликовать результаты в печати;

немедленно найти пропавших без вести экс-министра внутренних дел Юрия Захаренко, председателя ЦИКа, депутата ВС Виктора Гончара и бизнесмена Анатолия Красовского.

*Бангладеш* – **ИМТИАЗ АХМЕД**, профессор факультета международных отношений университета Дака

*Беларусь* – **ЛЮДМИЛА ГРЯЗНОВА**, член оргкомитета Хартии-97, депутат ВС

*Колумбия* – **КРИСТИНА ГИХА ТОВАР**, зам.директора по вопросам обороны и безопасности Национального Бюро планирования

*Коста Рика* – **СИЛЬВИЯ ЛАРА**, советник по гендерным вопросам Национального Женского Института

*Коста Рика* – **ТАТЬЯНА МОРА**, советник Министра труда

*Эстония* – **ОДАР НИСАМЕТДИНОВ**, зам.директора Радио 4 (русскоязычная станция)

*Индия* – **ДУБАГУНТА НАГАШАЙЛА**, адвокат Высшего суда Мадраса

*Израиль* – **ААРОН МОНБЛИТ**, гендиректор русскоязычного Конгресса журналистов

*Нигерия* – **БЕНЖАМИН БЕНЕДИКТ ЭКВОАБА**, член комитета по пересмотру конституции

*Сингапур* – **АНБАРАСУ БАЛРАСАН**, исследователь, Отделение политических исследований, Национальный Университет Сингапура

*Турция* – **ИХСАН ДАГИ**, профессор, Отделение международных отношений, Ближневосточный Технеон

*Замбия* – **КИМБАЛА ЛОТИ МЕЛЕКА**, ассистент секретаря, Министерство иностранных дел

# КНГ АБСЕ адпрэчвае абвінавачванні Лукашэнкі

**Алесь АБРАМОВІЧ**

Калі б Аляксандр Лукашэнка спыніў дзейнасць Кансультатыўна-назіральнай групы (КНГ) АБСЕ ў Беларусі, гэта было б значным рэгрэсам у сённяшніх вельмі кволых адносінах паміж Беларуссю і еўрапейскімі арганізацыямі. Пра гэта заявіў дакладчык Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы па Беларусі Вольфганг Берэндт, каменціруючы абвінавачванні з боку Аляксандра Лукашэнкі на адрас КНГ АБСЕ.

«Кансультатыўна-назіральная група АБСЕ ў Беларусі пад кіраўніцтвам нямецкага дыпламата Ханса-Георга Віка з пачатку 1998 года рабіла ўсё, што было ў яе сілах, каб ініцыіраваць і прасоўваць дыялог паміж урадам і апазіцыйнымі сіламі, — заявіў сп. Берэндт. — Дыскрэдытацыя КНГ у тым сэнсе, што яна нібы стала рупарам апазіцыі, ставіць пад сумнеў сур'ёзнасць намераў прэзідэнта Лукашэнкі супрацоўнічаць з еўрапейскімі арганізацыямі, якія прадстаўляюць ясныя дэмакратычныя прынцыпы і не дзейнічаюць з падказкі нейкага ўрада ці нейкай апазіцыі».

Сп. Берэндт адзначыў, што парламенцкія выбары, якія адбыліся ў Беларусі 15 і 29 кастрычніка, прадэманстравалі «дэфіцыт дэмакратыі» ў краіне. На ягоную думку, Беларусь не выканала чатыры патрабаванні еўрапейскіх структураў для забеспячэння свабодных і дэмакратычных выбараў». ■

**БелаПАН**

# У Дзень правоў чалавека Шэйман пазбягаў людзей

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

10 снежня ў цэнтры Мінска на праспекце Францыска Скарыны падчас правядзення народных гулянняў з нагоды Дня правоў чалавека іх удзельнікі і журналісты сутыкнуліся з прыехаўшым да будынка КДБ генеральным пракурорам Віктарам Шэйманам.

Ён павітаўся і, не адказаўшы на пытанні, якія прагучалі пры ягоным з'яўленні, знік у будынку КДБ. Каля гадзіны група журналістаў, а таксама жонка Віктара Ганчара Зінаіда Ганчар чакалі Віктара Шэймана ля цэнтральнага пад'езда будынка. Аднак раптам машына кіраўніка пракуратуры абагнула будынак, і Шэйман, нечакана з'явіўшыся з іншага пад'езда, хутка сеў у яе і паехаў.

Карэспандэнт БелаПАН пацікавіўся ў Зінаіды Ганчар, аб чым яна хацела спытацца ў новага генеральнага пракурора. «Хутчэй за ўсё, я б не стала размаўляць, — сказала жонка зніклага палітыка. — Калі б гэтыя людзі былі зацікаўленыя ў раскрыцці такіх злачынстваў, то за гэты перыяд штосьці было б ужо зробленае. Я неаднаразова звярталася і ў Савет бяспекі, і ў КДБ, і ў пракуратуру. У лепшым выпадку адказвалі беззмястоўнымі адпіскамі. Ім наогул усё роўна, што адбываецца з намі і з краінай, іх цікавіць толькі ўлада».

Следства, па словах Зінаіды Ганчар, топчацца на месцы. Значную актывізацыю чутак, гэтак званых «уцечак» і «ўкідванняў» інфармацыі Зінаіда Ганчар звязвае з маючымі адбыцца прэзідэнцкімі выбарамі. «Я спадзявалася, — сказала яна, — што на гэтую праблему звернуць увагу значна раней. Калі зараз апанентам улады выгадна звяртаць на гэта ўвагу, то мне крыўдна, людзі ж прапалі ў 1999 годзе, і аб гэтым трэба было гаварыць адразу і патрабаваць раскрыцця гэтых злачынстваў». Зінаіда Ганчар падзякавала беларускім праваабаронцам за правядзенне ў Дзень правоў чалавека «вельмі ўмела арганізаванай, салідннай акцыі, якая нагадала аб прапаўшых людзях». ■

**БелаПАН**

# БНФ хавае намеры

**Алесь ШМЯЛЁЎ**

Закрытым ад журналістаў і ўсіх несябраў вышэйшага кіраўнічага органа руху і партыі БНФ «Адраджэнне» быў апошні ў гэтым стагоддзі Сойм арганізацыі. Такое рашэнне было прынятае на падставе важнасці абмяркоўваемага пытання. У прыватнасці, сябры Сойма абмяркоўвалі сваё стаўленне да асобаў, мяркуемых на вылучэнне адзінага кандыдата ад дэмакратычнай апазіцыі на выбарах прэзідэнта ў наступным годзе. Аднак вядома, што абвяшчэнне гэтага кандыдата стане магчыма толькі пасля правядзення Каардынацыйнай рады дэмакратычных сілаў 15 снежня, і таму БНФ мог толькі вызначыцца, да якой персоны яны найбольш схіляюцца. І хаця было праведзенае нават рэйтынгавае галасаванне, прозвішча прэтэндэнта не было агалошанае.

Акрамя, ўласна, галоўнага пытання, была абмеркаваная і стратэгія паводзінаў арганізацыі ў выпадках магчымага развіцця падзеяў падчас правядзення прэзідэнцкіх выбараў. Але галоўная інтрыга захавалася менавіта да 15 снежня. ■

# Дыктатарам нельга рабіць саступак

Чэшскае грамадска-палітычнае выданне *Lidove noviny* («Народная газета») апублікавала артыкул «Нельга рабіць саступкі дыктатарам» старшыні фундацыі «Чалавек у нядолі» Томаша Пояра. На ягоную думку, Чэшская рэспубліка павінна выбіраць асобаў, з якімі можна кантактаваць, а з якімі – не, па прынцыпах дэмакратыі, абароны свабодаў і правоў чалавека ў дзяржаве. «Калі нядаўна ў Прагу прыехаў далай лама, кітайскі амбасадар зноўку пагражаў пагаршэннем адносінаў, і некалькі нашых прадстаўнікоў зазначыла, што візіт пашкодзіць эканамічным стасункам з Кітаем. Але негатыўныя водгукі на прэзідэнцкае запрашэнне з боку палітыкаў і непаспяховых капітанаў чэшскай прамысловасці былі не такія гучныя ў гэтым годзе, чым летась».

Томаш Пояр зазначае, што «ідэалогію стала абыходзяць бокам у свеце глабальнай канкурэнцыі і міжнароднага капіталу. І в'етнамскія камуністы, нарэшце, прымаюць рашэнне паводле таго, ці патрэбныя ім чэшскія лакаматывы і ці можна іх набыць дзе-небудзь танней. Супраць падтрымкі дысідэнтаў будуць пратэставаць заўсёды, але толькі кошт тавараў будзе ўсё вырашаць канчаткова».

Але такая тэндэнцыя вельмі небяспечная, бо «саступкі ў вобласці абароны правоў чалавека адсочваюцца дыктатарамі і любыя паслабленні ў ціску на рэжымы выкарыстоўваюцца для наступных жорсткіх крокаў адносна іншадумцаў». Чэшскі грамадскі дзеяч лічыць, што падтрымліваць дэмакратычную апазіцыю заўсёды выгадней, бо «яна ў любым выпадку возьме ўладу ў свае рукі».



Томаш Пояр заклікае чэшскіх палітыкаў і бізнесоўцаў спыніць любыя кантакты з дыктатарскімі рэжымамі свету: «Нашым нацыянальным інтарэсам ёсць патрабаваць выканання людскіх правоў у Чачні і дамагацца змены рэжыму на Беларусі. Менавіта на аснове чачэнскай вайны і лукашэнкаўскай постсавецкай палітыкі, пабачыўшы беспакаранасць, у Расеі прыбралі ўладу да сваіх рук прадстаўнікі КДБ. Кампрамісы і саступкі Захаду толькі ўзмацняюць таталітарызм. І Крэмль, падкантрольны Лубянцы, не можа стаць асновай чагосьці добрага і дэмакратычнага». ■

**Беларускі Форум, Прага**

# Прадпрымальнікі патрабуюць перамоваў

**Рыгор БУЯН**

Адсутнасць афіцыйнай рэакцыі на забастоўку 23 лістапада вымагае ад прадпрымальнікаў больш радыкальнага падыходу да вырашэння іхніх праблемаў. Ва ультыматыўнай форме Беларускі прафсаюз прадпрымальнікаў запатрабаваў ад урада распачаць перамовы па змяненні існуючага заканадаўства. Пры гэтым БПП вызначыў жорсткія рамкі пачатку перамоўнага працэсу: 7-14 снежня. Калі Саўмін адмовіцца ад двухбаковых перамоваў, 14 снежня прадпрымальніцкі прафсаюз прыме рашэнне працягваць акцыі пратэсту.

Вылучаючы тыя ж патрабаванні, што і падчас аднадзённай забастоўкі 23 лістапада (яны неаднаразова агучаныя ў прэсе), прадпрымальнікі звяртаюць увагу, што «нашыя патрабаванні скіраваныя як на развіццё дробнага бізнесу і папаўненне дзяржаўнай казны, так і на зніжэнне цэнаў на тавары».

Тое, што прыватныя прадпрымальнікі не блефуюць, пацвярджаецца пададзенай у Мінгарвыканкам заяўкай на правядзенне 18 снежня ў Мінску мітынга з эканамічнымі лозунгамі. Прадухіляючы забарону акцыі, прадпрымальнікі адразу заявілі месцам правядзення мітынга плошчу Бангалор. ■

КНІГАРНЯ

# Залатая шпора

**Рыгор СУША**

**Гісторыя Беларусі. Ад старажытнасці да XXI стагоддзя. Кароткі нарыс. Мінск. 2000.**

Адзін з самых старажытных еўрапейскіх ордэнаў – ордэн Залатой шпоры – быў утвораны ў гонар бітвы, калі атрады французскай рыцарскай конніцы, апранутай у браню, на закрытых даспехамі ж конях былі пераможаныя невялікай колькасцю фламандскіх пікінёраў і лучнікаў, якія, стоячы на беразе балоцістай ручаіны, перабілі столькі высакародных асобаў, што мясцовы касцёл займеў аздобу з 700 залатых шпораў. Бітва прымусіла пераасэнсаваць стратэгію: малыя аддзелы могуць быць болей карыснымі, чым шанаваныя, але цяжкія на пад'ём.

На грунце гэтага гістарычнага факта можна параўнаць тоўстыя кнігі па гісторыі Беларусі, якіх немалы выбар прапануюць кнігарні, і толькі што выдадзеную брашуру «Гісторыя Беларусі. Кароткі нарыс». У ёй усяго 80 старонак. Каб прачытаць цалкам яе змест ад узгадак пра першых насельнікаў Беларусі да вядомых кожнаму падзеяў 2000 года, дастаткова пары гадзінаў. Кніга напісаная вельмі ёміста. Не прапушчаная ніводная значная падзея, ніводная значная асоба, якія складаюць неабходны корпус ведаў пра сваю краіну і дзяржаву. Калі наш урад прыме рашэнне аб абавязковым экзамене дзяржчыноўнікаў пры ўступленні на дзяржаўную службу на веданне беларускай даўніны, яны стануць самымі зацікаўленымі спажыўцамі гэтага выдання, бо сэканомяць шмат часу, аддаючы навуцы гісторыі найболей адзін вечар. А калі такога выпрабавання нашае чынавенства не зазнае, дык усё роўна кніга прыдасца кожнаму начальніку пры падрыхтоўцы дакладаў ці выступаў, у якіх варта пазначыць сваю дасведчанасць у сферы роднай старасветчыны.

Пэўную карысць гэтае навукова-папулярнае выданне дасць краязнаўцам. Яно таксама можа быць прыдатным для настаўнікаў, асабліва ў сельскай мясцовасці, бо купляць фундаментальныя даследаванні яны не маюць фінансавых магчымасцяў. У нарысе асветленая не толькі палітычная і ваенная гісторыя, што сталася нашай традыцыяй. Ясна прагледжанае эканамічнае развіццё ад першабытнай гаспадаркі да калектывізму савецкіх часоў і аднаўлення рынкавых капіталістычных элементаў у апошнія гады другога тысячагоддзя. Належная ўвага ўдзеленая і гісторыі розных канфесіяў на Беларусі як у сярэднявечча, у часы атэістычнага валадарання, так і ў апошнія гады, калі распачалося вяртанне людзей у цэрквы і касцёлы.

Вельмі добра, што кніга мае шмат выдзяленняў, якія дазваляюць хутка знайсці патрэбныя на дадзены момант тэзы.

Па сутнасці, з'явілася доўтачаканае выданне. Бо арыентацыя на дарагія тоўстыя каляровыя выданні прывяла да таго, што стала немагчыма знайсці танную кнігу па гісторыі. Паралель з «Залатой шпорай» узнікае, дарэчы, яшчэ і таму, што сёння шпорай, на жаль, называюць не залаты выраб, які носяць на ботах, а самаробны рукапіс, які можа саслужыць выратавальную службу падчас іспыту. Брашура «Гісторыя Беларусі» адпавядае і гэтакім стандартам, прызнаным сярод нашага лянівага вучнёўства. ■

# Слабый пол под бременем нищеты

**Александра АЛЕКСАНДРОВА,**
**кандидат социологических наук**

**В ноябре 2000 года по гранту Фонда МакАртуров было проведено республиканское социологическое исследование «Масштабы бедности среди женщин Республики Беларусь». Всего было опрошено 778 женщин; ошибка выборки составляет ±3%. Возврат анкет по всей республике был 100 %.**

Фота IREX/ProMedia

В Беларуси тема бедности по-прежнему изучается мало. Реальные цифры, которые отражали бы масштабы бедности в республике, правдиво никто не называет. Бедность подменяется другими словами – малоимущие, материальные затруднения, низкие доходы. Считается, что они не будут травмировать граждан.

То, что в Беларуси женщины имеют низкие доходы и испытывают серьезные материальные проблемы, так или иначе знают все. Однако справедливо задаться вопросом: Что значит низкий уровень жизни? Много ли в нашей республике бедных? Каковы масштабы женской бедности?

## Восприятие социально-экономической ситуации в республике и жизненные трудности

По данным опроса, абсолютное большинство белорусских женщин (95%) считают, что за последние два года в социально-экономической ситуации республики не произошло никаких позитивных сдвигов. Более того, 64,3% женщин полагают, что экономическое положение ухудшилось.

78,6% женщин воспринимают проблему низких доходов и нехватки денег очень болезненно. Это проблема номер один по актуальности и серьезности. Более половины (62,3%) всех женщин в республике отметили, что они очень тревожатся за будущее своих детей. Проблема тревоги за будущее поколение занимает второе место после низкого уровня жизни. Каждая вторая (51,3%) женщина испытывает серьезные проблемы со здоровьем; 46% отмечают в качестве серьезной проблемы низкий уровень медицинского обслуживания. 40,7% женщин говорят, что их постоянно тревожит чувство собственной усталости и переутомления.

## Денежные доходы женщин и восприятие своего материального положения

Определение нищеты и бедности белорусскими женщинами оказалось полностью совпадающим с международными стандартами. По данным ООН, нищета соответствует доходу в один доллар США в день на одного человека. Бедность измеряется доходом в два американских доллара в день на человека. Фактически 90% белорусских женщин определили нищету как уровень доходов, не превышающих $30 в месяц. Интересно, что более 40% женщин считает, что нищета описывается доходом до $10 в месяц, то есть 30 центов (!) в день на человека. Еще одна треть женщин считают, что нищета — это доход от 10 до 20 долларов США.

Фактически 90% женщин теоретически определили бедность в республике как уровень дохода, не превышающий двух долларов США в день на одного человека. При этом 57,4% женщин, еще ниже опуская планку, говорят, что бедность можно определить доходом в сумме до $30 в месяц на человека.

По уровню суммарного денежного дохода в месяц 74% женщин Беларуси могут быть отнесены к категории бедных. Их доход в месяц не превышал 40 тыс. белорусских рублей. 7,4% имели доход до 10 тыс. рублей. 26,6% имели доход от 10 до 25 тыс. рублей. 40% — от 25 – 40 тыс. рублей. Таким образом, масштабы бедности женщин по доходам составляют как минимум 74%.

На прямой вопрос «Как Вы определяете свое материальное положение?» 13,6% женщин отвечают, что они относят себя к категории нищих. 50,3% говорят, что они относятся к категории бедных. Итак, по субъективным оценкам, 64% женщин Республики Беларусь считают себя бедными. (Разница в процентах бедности по доходам и субъективной оценкой своего материального положения объясняется проблемой субъективного восприятия).

74% белорусских женщин до 50% своего бюджета в месяц тратят на питание и продовольственные продукты, что по международным стандартам также является признаком бедности 40,3% тратят на питание более 75% своего бюджета в месяц.

## Стандарты бедности в Беларуси: результаты исследования

Для того, чтобы быть максимально точными в определении масштабов бедности в Беларуси, мы использовали широко распространенный в мировой практике подход – бедность по лишениям.

Женщины могут быть отнесены к бедным, если их ресурсы недостаточны для обеспечения питания, условий жизни и деятельности, являющихся привычными и общепринятыми в белорусском обществе. Мы определили общепринятый набор жизненных благ, который, по мнению самих женщин, отделяет бедных от небедных.

Вопрос был сформулирован так: «Что, по Вашему мнению, в настоящее время в Белоруссии является признаком бедности?» По каждому пункту женщина-респондент выбирала один из предложенных вариантов ответа. На основе выбора женщин был составлен базовый список лишений из 15 пунктов. Эти пункты выбрали не менее 90 +3% всех женщин.

Следует отметить, что данный список незначительно изменяется по областям, типам поселения, возрасту, уровню дохода и другим признакам. Поэтому его можно назвать базовым списком лишений, определяющим бедность женщин в Республике Беларусь. ■

**БАЗОВЫЙ СПИСОК ЛИШЕНИЙ, ОПРЕДЕЛЯЮЩИЙ БЕДНОСТЬ В БЕЛАРУСИ**

| | |
|---|---|
| 1. Нет денег на жизненно важные лекарства и медицинское обслуживание | (93,6 %) |
| 2. В семье не доедают | (93,3 %) |
| 3. Не могут покупать детям одежду и обувь по мере роста | (93,0 %) |
| 4. Нет денег для обновления и ремонта одежды для всех членов семьи | (92,3 %) |
| 5. Нет денег для обновления и ремонта обуви для всех членов семьи | (92,1 %) |
| 6. Не имеют и не могут приобрести даже ч/б телевизор | (92,0 %) |
| 7. Не имеют и не могут приобрести самую простую мебель | (91,4 %) |
| 8. Не могут покупать детям сладости | (89,8 %) |
| 9. Не имеют холодильника и не могут его приобрести | (89,7 %) |
| 10. Не могут давать деньги детям на питание в школе | (89,6 %) |
| 11. Не могут позволить себе мясо и рыбу хотя бы два раза в неделю | (89,4 %) |
| 12. Нет денег на оплату детских лагерей, санатория | (88,7 %) |
| 13. Семья не может оплачивать пребывание детей в дошкольных учреждениях | (88,0 %) |
| 14. Нет центрального отопления и денег на топливо | (87,1 %) |
| 15. Семья не может в случае крайней необходимости сделать ремонт в доме | (87,0 %) |

СПОРТ

# Зноў «па нулях»

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Абсалютна ніякіх поспехаў не дабіліся беларускія біятланісты і біятланісткі і на другім этапе Кубка свету, што зноў праходзіў у італьянскім Антхольцы. У асабістых гонках ні мужчыны, ні жанчыны нічога не паказалі, і было нават сорамна разглядаць выніковы пратакол, дзе нашы адзначыліся на саракавых-пяцідзесятых месцах. Адзін Вадзім Сашурын выступіў дастойна, калі гэтак можна сказаць аб месцы ў дваццатцы. У асабістым разрадзе дзве гонкі выйграў француз Рафаэль Пуарэ, які вырваўся ў лідэры ў агульным заліку.

Асноўныя ж надзеі па-ранейшаму былі на мужчынскую эстафету, дзе ў беларусаў даволі роўны склад. Але і там – ніякіх шанцаў, пры выдатнай стральбе нашы рухаліся па лыжні, як чарапахі, і ў выніку – толькі пятае месца. І хаця гэта лепш, чым мінулым разам (тады мы былі шостымі), неяк не праглядаецца перспектыва ўзняцца вышэй. А перамаглі ў гэты раз нарвежцы, якія ў апошні момант вырвалі перамогу ў чэхаў.

У жаночай эстафеце ўвогуле па прагнозах лавіць не было чаго. І прагнозы, на жаль, спраўдзіліся. Беларускі нават блізка не падышлі да месца ў пяцёрцы. А шкада... Так хочацца поспехаў і славы. ■

# На сябе ўжо не надзейся

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

Толькі адно ачко ў трох матчах набралі беларускія гандбалісткі на чэмпіянаце Еўропы па ручным мячы ў Бухарэсце. З лікам 26:26 яны згулялі ўнічыю з нарвежкамі і прайгралі саперніцам з Даніі і Румыніі. Калі гаспадыням пляцоўкі ўступілі з розніцай у адзіны мяч – 28:29, дык алімпійскія чэмпіёнкі «прывезлі» ім ажно восем галоў – 34:26.

Лепшым бамбардзірам у нашай дружыне з'яўляецца Святлана Мінеўская – 19 мячоў.

Лідэрам гэтай папярэдняй групы стала зборная Румыніі – 5 ачкоў з шасці магчымых. Далей ідуць гандбалісткі Украіны – 4, Даніі і Македоніі – па тры, два маюць чэмпіёнкі свету нарвежкі.

Калі нашы і выйграюць апошнія сустрэчы, дык набяруць толькі пяць ачкоў. Але лёс беларускай зборнай будзе залежаць, найперш, ад астатніх вынікаў. Сёння сапернікам беларускіх жанчын будзе каманда Македоніі, заўтра – Украіны.

Толькі дзве лепшыя зборныя выходзяць у фінальную частку спаборніцтваў. Калектыў, які зойме ў групе трэцяе месца, можа разлічваць не больш, чым толькі на выніковае пятае...

Зразумела, што шанец пазмагацца за медалі чэмпіянату Еўропы беларускі ўжо практычна і тэарэтычна страцілі. Будзем спадзявацца, што сярод усіх дванаццаці фіналістак Беларусь атрымае на фінішы больш ці менш годнае месца. ■

# Дзе вы, асілкі з Гародні?

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

Перамогай зборнай сталіцы завяршыўся ў Мінску адкрыты Кубак Беларусі па армрэстлінгу (барацьба на руках). Госці спаборніцтваў – каманда з Масквы ў складзе з 18 чалавек – канечне, і разлічвала на больш велізарны поспех, але гэта часткова атрымалася толькі ў аднаго з расіянаў – Андрэя Антонава, які, праўда, акрамя перамогі ў сваёй катэгорыі, першынстваваў таксама і ў «абсалютцы».

У адсутнасці двухразовай чэмпіёнкі свету Алены Кандратавай, якая выйшла замуж за швейцарца, нарадзіла дачку і жыве зараз, зразумела, не ў Беларусі, сярод жанчын зіхацела зорка яшчэ адной прымы армрэстлінгу трохразовай чэмпіёнкі свету, заслужанага майстра спорту Людмілы Шастаковай, якая, дарэчы, упэўнена выйграла сваю катэгорыю шосты год запар.

Увогуле, большую частку ўзнагародаў, нібы па традыцыі, забралі вучні галоўнага трэнера зборнай краіны Валерыя Бабука. Але і сярод іх трэба адзначыць Маргарыту Смірнову, Кірыла Гусалава, Алега Мацкевіча і асабліва 14-гадовую мінчанку Юлію Сігай, якая, нягледзячы на зусім юны ўзрост, перамагла ўсіх сваіх саперніцаў жанчын.

Упершыню ў гісторыі рэспубліканскіх спаборніцтваў на высокае (другое месца) узняліся рукаборцы Брэстчыны, а вось адсутнасць у які ўжо раз каманды з Гродзенскай вобласці дае падставы меркаваць, што ў заходняй частцы нашай моцнай краіны асілкі хутчэй за ўсё зніклі наогул.

І на заканчэнне трэба адзначыць, што фінальныя паядынкі праводзіліся ў вядомым клубе «Рэактар», і сведкамі іх, канешне, стала значна больш гледачоў. ■



Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана ў друкарні УП «Мэджык»
г. Мінск, ул. Кнорына, 50. Заказ 945 Нумар падпісаны ў друк 11/12/2000 (18.00) Наклад – 9.430